## ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ДАГАВОР ПАДПІСАН

З 11 на 13 жніўня 1970 года ў Савецкім Саюзе знаходзіўся з афіцыяльным візітам федэральны канцлер ФРГ Вілі Брант. 12 жніўня ў Маскве ў Вялікім крамлёўскім палацы адбылося падпісанне Дагавору паміж СССР і ФРГ.

Ад імя Савецкага Саюза Дагавор падпісалі: Старшыня Савета Міністраў СССР А. Касыгін і міністр замежных спраў СССР А. Грамыка, ад імя ФРГ федэральны канцлер Вілі Брант і міністр замежных спраў ФРГ Вальтэр Шэль.

Пры падпісванні з савецкага боку прысутнічалі Л. Брэжнеў, А. Кірыленка, К. Мазураў, Я. Пельшэ, Д. Палянскі, Ю. Шалепін, Ю. Андропаў, К. Катушаў, Б. Панамароў і іншыя афіцыйныя асобы.

У Дагаворы абодва бакі бяруць на сябе абавязацельства няўхільна захоўваць тэрытарыяльную цэласць усіх дзяржаў у Еўропе ў іх цяперашніх граніцах. Савецкі Саюз і ФРГ, гаворыцца ў Дагаворы, разглядаюць як непарушныя цяпер і ў будучым граніцы ўсіх дзяржаў у Еўропе, як яны праходзяць на дзень падпісання гэтага дагавору, у тым ліку лінію Одра-Ныса, якая з'яўляецца заходняй граніцай Польскай Народнай Рэспублікі, і граніцу паміж Федэратыўнай Рэспублікай Германіі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай.

### ЗА ЗЯМЛЮ

Рух індыйскіх сялян за зямлю, які расшыраецца і праходзіць пад лозунгам «Зямля павінна належаць народу!» прыцягвае пільную ўвагу грамадскасці краіны. 9 жніўня ва Утар Прадэшы і іншых штатах Індыі да гэтай агульнанацыянальнай кампаніі, пачатай па закліку Камуністычнай партыі Індыі, далучыліся шматлікія групы, якія прадстаўляюць рад дэмакратычных партый і арганізацый Індыі.

Мясцовыя ўлады пад націскам буйных землеўладальнікаў прымаюць рэпрэсійныя меры ў адносінах да ўдзельнікаў руху за зямлю.

### УРАГАН

У выніку ўрагану «Селья», які пранёсся над паўднёвымі раёнамі штата Тэхас, поўнасцю разбураны 8.950 дамоў, вельмі пашкоджаны 13.850 будынкаў і 41.800 дамоў атрымалі частковыя пашкоджанні. Разбурана 252 адміністрацыйныя будынкі, знішчана больш як 300 розных суднаў і 310 сельскагаспадарчых пабудоў.

### РОЎНЫЯ ПРАВЫ

Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША большасцю галасоў адобрыла, пасля больш 40 год пралежаўшага праекта, папраўку да канстытуцыі, якая ставіць сваёй мэтай забеспячэнне роўных палітычных і эканамічных правоў для жанчын.

### АМЕРЫКАНСКІЯ МАНАПОЛІ...

...узмацняюць сваё пранікание ў чылійскую эканоміку. Доля амерыканскіх капіталаўкладанняў у горнарудную прамысловасць ў 1968 годзе, напрыклад, складала звыш 60 працэнтаў, або ў грашовым выражэнні 586 мільёнаў долараў. Значнае пранікание манапалістаў ЗША і ў іншыя галіны эканомікі Чылі, дзе за 8 гадоў сума іх інвестыцый патроілася. (АК)



## БССР

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Пленум заслухаў даклад першага сакратара ЦК П. Машэрава — «Аб выніках ліпеньскага пленума ЦК КПСС і чарговых задачах Кампартыі Беларусі ў галіне сельскай гаспадаркі». Назвы раздзелаў даклада: «Павелічэнне вытворчасці збожжа — ключавая праблема развіцця сельскай гаспадаркі», «Паскорыць перавод грамадскай жывёлагадоўлі на прамысловую аснову», «Умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы і ўкараненне дасягненняў навукі ў сельскую гаспадарку — наша важнейшая задача», «Павышаць адказнасць кадраў за даручаную справу».

Гаворачы аб новай пяцігодцы Машэраў м. ін. паведаміў:

«У новай пяцігодцы для сельскай гаспадаркі на вытворчае, жыллёвае, культурна-бытавое будаўніцтва і набыццё тэхнікі выдзяляецца 2.760 мільёнаў рублёў дзяржаўных капітальных укладанняў, у тым ліку 1.600 мільёнаў рублёў на будаўніча-мантажныя работы. Як я ўжо гаварыў, гэта сума ў 1,9 раза большая, чым у бягучым пяцігоддзі. Акрамя таго, калгасы змогуць укласці на капітальнае будаўніцтва і тэхнічнае аснашчэнне ў межах 2 мільярдаў рублёў, або ў 1,7 раза больш, чым за 1966—1970 гады».

### КАМІСІІ

Адбылося пасяджэнне Камісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб мерах па павелічэнню выпуску літаратуры, расшырэнню аб'ёму і павышэнню якасці радыё- і тэлевізійных перадач для моладзі. З паведамленнямі выступілі старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку Р. Канавалаў і намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па радыёвяшчанню і тэлебачанню М. Пятніцкі.

Камісія адзначыла, што магчымасці для далейшага павелічэння выпуску літаратуры для дзяцей і моладзі, якія ёсць у рэспубліцы, выкарыстоўваюцца недастаткова. Пры складанні праграм радыё- і тэлевізійных перадач і тэматычных планаў мала ўлічваюцца запатрабаванні розных сацыяльных, узроставых і прафесіянальных груп моладзі.

У Беларусі адчуваецца недахоп літаратуры для юнацтва і дзяцей, а яе ўдзельная вага ў планах выдавецтваў нязначная. Амаль не выпускаюцца навукова-фантастычныя кніжкі.

### СУСТРЭЧА

У Доме Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася сустрэча стажораў-студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Англіі і Францыі з камсамольскім актывам і творчай моладдзю беларускай сталіцы.

### КЕДЫШКІ

Мінскае сярэдняе гарадское прафесіянальнае вучылішча № 24 імя Кедышкі ўтрымоўвае ажыўленыя сувязі са сваімі равеснікамі з чэхаславацкага горада Міхалоўцэ.

### БЕЛАРУСКАЕ

Другі год Беларускае лесаўпарадкавальнае прадпрыемства выконвае вялікія работы па даследванню лясных глеб. Пачатак быў пакладзены ў зялёнай зоне Мінскай лясной гаспадаркі на плошчы 39 тысяч гектараў. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ПОЛЬШЧА — РУМЫНІЯ

У Варшаве падпісаны новы дагавор паміж Польшчай і Румыніяй аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе. З польскага боку дагавор падпісаў намеснік міністра замежных спраў Зыгфрыд Вольняк, а з румынскага — намеснік міністра Ніколяй Якобеску.

### У ЛІЦЭЯХ

Ад верасня ўвойдуць у жыццё змены ў праграме навучання ў ліцэях. Увядуцца гэтак званыя факультатыўныя заняткі ў пяці прадметных групах (матэматычна-фізічнай, гуманістычнай, геаграфічна-эканамічнай, біялагічна-хімічнай і мовазнаўчай). Яны будуць весціся ў форме семінараў, а іх галоўнай мэтай будзе лепшая падрыхтоўка вучняў да вучобы ў вышэйшых навучальных установах. Для тых, хто пасля аканчэння ліцэя не мае намеру далей вучыцца, уводзяцца заняткі прафесіянальнай падрыхтоўкі.

### ДОЛЬНЫ ШЛЁНСК

14 жніўня адбылася нарада ў Вроцлаве старшынь прэзідыумаў радаў нарадовых Дольнага Шлёнска. На нарадзе быў праведзены аналіз выканання гаспадарчых заданняў першага паўгоддзя. Нарада паказала, што амаль усе галіны прамысловасці Дольнага Шлёнска перавыканалі свае заданні. Васьмідзесяціпрацэнтны ўзрост прадукцыі дасягнуты дзякуючы павелічэнню прадукцыйнасці працы.

### ПАЖАРЫ

У гэтым годзе ўспыхнула ўжо каля 10500 пажараў, у тым ліку 3500 — за два апошнія месяцы.

### КАНГРЭС

У Варшаве адбыўся VII міжнародны кангрэс працы і міжнароднай апекі. Прыняло ўдзел у ім каля 500 вучоных з 60 краін і група польскіх спецыялістаў па правах працы.

### МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР

У Варшаве пачаў сваю працу міжнародны семінар, прысвечаны справам гігіены харчавання. Арганізатарам семінару з'яўляецца Еўрапейскае рэгіянальнае бюро Сусветнай арганізацыі здароўя. У семінары ўдзельнічае 55 вучоных з розных краін. Удзельнікі семінара пазнаёмяцца таксама і з працай нашай санітарна-эпідэміялагічнай службы, а таксама наведаюць польскія навуковыя інстытуты і прадпрыемствы харчавання.

### КАРТА

Цэнтраля гандлю замежнага будаўніцтва «Будімэкс» падпісала ў Танзаніі кантракт на паслугі ў галіне картаграфіі. Датычыць ён апрацавання карты ў маштабе 1:50 000. Карта выканана будзе найбольш сучаснымі фотаграметрычнымі метадамі Дзяржаўным прадпрыемствам фотаграметрыі Галоўнага бюро геадэзіі і картаграфіі.

### ПАВОДКА

Апошняя паводка выклікала на Мазоўшы страты каля 30 мільёнаў злотых. Найбольшыя страты былі ў сельскай гаспадарцы. Хваля паводкі заліла палі са збожжам, знішчыла таксама вялікія абшары бульбы. Шкоды ў сельскай гаспадарцы Варшаўскага ваяводства акрэсліваюцца на 17 мільёнаў злотых. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### СА ЖНІЎНАГА ФРОНТУ

Апошнія дажджы і буры на некалькі дзён стрымалі палявыя работы. Але жыта ўсюды ўжо скошана, заканчваецца ўборка яравых. Найгорш выглядае справа са звозкай збожжа. Гаспадары выкарыстоўваюць кожны сонечны дзень, працуюць ад досвітку да цямна, каб толькі як мага хутчэй управіцца з уборкай ураджаю. У гэтым ім дапамагае моладзь і розныя грамадскія ўстановы.

### ЗЕРНЕ

Аддзел скупу Прэзідыума ВРН паведаміў аб пачатку дастаўкі збожжа сялянамі ў дзяржаўныя склады. Да 10 жніўня была прынята першая тысяча тон зерня.

Наогул скуп збожжа праходзіць нармальна, у добрым парадку. Але сць ужо сігналы, што ў некаторых мясцовасцях наглядаецца яшчэ не зусім адпаведная арганізацыя прыёму — не ўсюды працуюць брыгады па выгрузцы збожжа, часам здараюцца прастоі па віне кладаўшчыкоў.

### СТОНКА

Жніво адарвала ўвагу сялян ад бульбы. Гэтага хапіла, каб за гэты час хутка павялічылася колькасць стонкі. Неабходна знайсці час, каб як найхутчэй зноў правесці пасыпку бульбы хімічнымі сродкамі. У сёлетнім цяжкім гаспадарчым годзе трэба берагчы кожны кілаграм бульбы. А між тым кантроль, праведзены Ваяводскай станцыяй па ахове раслін паказаў, што ёсць шмат недахопаў і ў гэтай галіне.

### ДРУГАГОДНІКІ

У школах Беластоцкага ваяводства 753 дзяцей засталося на другі год і ад першага верасня пойдзе ў той самы клас. Як бачым, другагоднікаў хапіла б на вялікую самастойную школу. Але ў параўнанні з мінулымі гадамі колькасць другагоднікаў значна паменшылася. 753 дзяцей — гэта $3{,}6^0/_0$ усіх вучняў. У 1969 г. лік другагоднікаў складаў $3{,}9^0/_0$, у 1968 — $5{,}5^0/_0$, у 1967 — $5{,}6^0/_0$.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Беластоцкая жыллёвая спулдзельня «Родзіна колеёва» на сваім аседлі Антонюк вырашыла грамадскім чынам пабудаваць новы будынак для прадшколля. Кошт будаўніцтва прадшколля на чатыры групы складзе 3 млн. зл. Члены спулдзельні ўплацілі ўжо па 210 зл. і абавязаліся выканаць усе дапаможныя і значную частку прафесіянальных работ. Тэхнічны надзор ўзяло на сябе грамадскім чынам Прадпрыемства інвестыцыйных паслуг Цэнтральнага саюза спулдзельняў жыллёвага будаўніцтва. Апеку над будаўніцтвам прадшколля ўзяло на сябе таксама некалькі беластоцкіх прадпрыемстваў.

### НА КАЛЕГІЮ

Адной з форм пакарання, асабліва за хуліганства, з'яўляецца скіраванне міліцыяй справы на грамадскую калегію пры прэзідыумах павятовых рад нарадовых. За I паўгоддзе гэтага года органы грамадзянскай міліцыі накіравалі ў калегіі 8600 прапаноў аб пакаранні. У тым ліку за хуліганства ў нецвярозым стане — 4 113 прапаноў. (яч)




**NIEDZIELA — 23.VIII.70**

7.50 Program dnia; 7.55 Telewizyjny Kurs Rolniczy „Lato 70"; 8.30 Przypominamy, radzimy; 8.40 Nowoczesność w domu i zagrodzie; 9.00 Dla młodych widzów: „Czterej pancerni i pies"; 10.00 Dla dzieci: „Śpiewajcie z nami" — program Telewizji Bułgarskiej; 10.20 „Inny rytm" — film fab. ang.; 11.10 Program dnia; 11.30 Centralne pokazy lotnictwa wojskowego i sportowego; 12.30 Dziennik Telewizyjny; 12.45 „Szansa Sudetów" — program wiejski; 13.20 Teatrzyk dla Przedszkolaków — Anna Chodorowska „Wyspa mamy Żółwiowej"; 14.00 („W starym kinie") — „Koncert Życzeń"; 15.00 „Po prostu jazz"; 15.30 „Bonanza" — film; 16.20 Klub Sześciu Kontynentów; 17.05 Teatr Niedzielny — „Obrona sycylijska; 18.05 Spotkanie z pisarzem — Stanisławem Szenicem; 18.35 „Minstrel Show" — film rozrywk. prod. ang.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik Telewizyjny; 20.00 Recital piosenkarek rumuńskich; 20.30 P.K.F.; 20.40 „Prawo" — film fab. franc.-włoski; 22.00 Magazyn sportowy; 22.45 Program na jutro.

**PONIEDZIAŁEK — 24.VIII.70**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik Telewizyjny; 17.00 Teleferie; 17.25 „Radar" — film. progr. wojskowy; 17.35 Echo stadionu; 18.00 „Lato" („Cztery pory roku") — film; 18.20 Zdzisław Karczewski („Sylwetki X Muzy"); 18.50 Eureka — magazyn popularno-naukowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr Telewizji — „Brat marnotrawny" ok. 21.25 Polski Film Dokumentalny; 22.00 „Reszta jest sexem" — felieton filmowy; 22.15 Dziennik; 22.30 Program na jutro.

**WTOREK — 25.VIII.70**

10.00 „Rondo" — film fab. jugosł.; 11.30 Przerwa; 16.45 Program; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.50 „Dla człowieka i natury" — progr. publicystyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wypadek...?" — reportaż filmowy; 20.25 Kino Interesujących Filmów „Rondo" — film fab. jug.; 21.55 Panorama Literacka; 22.25 Dziennik; 22.40 Program na jutro.

**ŚRODA — 26.VIII.70**

10.00 „Małżeństwa z rozsądku" — film fab. czechosł. — cz. V; 11.35 Przerwa; 16.45 Program; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie (— film przygodowy radz.); 18.10 Magazyn ITP; 18.25 Telewizyjny Kurier Warszawski; 18.40 „Drugi po Koperniku"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Małżeństwa z rozsądku" — film fab. czechosł. — cz. V; 21.35 Światowid; 22.05 PKF; 22.15 „Tańce łotewskie" — program rozrywkowy radz.; 22.45 Dziennik; 23.05 Program na jutro.

**CZWARTEK — 27.VIII.70**

16.45 Program; 16.50 Dziennik; 17.00 „Pozdrowienia ze Szwajcarii" — film prod. szwajcarskiej; 17.25 Telewizyjny Kurier Lubelski; 17.40 Nie tylko dla pań; 18.00 „Podyplomowe indeksy"; 18.30 „Pieśni odrodzenia" — film prod. rum.; 18.45 Magazyn medyczny; 19.10 Przypominamy, radzimy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.15 X Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie; ok. 21.25 w przerwie — Dziennik; ok. 23.15 Program.

**PIĄTEK — 28.VIII.70**

10.00 „Tajemnica szyfru" — film fab. rum.; 11.20 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.30 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 18.45 „Za kierownicą"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik Telewizyjny; 19.55 Rozmowy o książkach; 20.15 X Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie; ok. 21.25 Dziennik; ok. 23.15 Program na jutro.

**SOBOTA — 29.VIII.70**

10.00 „Postrzeleniec" film fab. węg.; 11.30 Przerwa; 15.15 Program dnia; 15.20 Program tygodnia; 15.40 „Oferty"; 15.50 Dziennik; 16.00 Sprawozdanie z finałowych zawodów lekkoatletycznych mężczyzn o Puchar Europy (Transmisja ze Sztokholmu); 18.30 Spotkania z przyrodą; 18.50 Reportaż filmowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.15 X Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie; ok. 21.25 Dziennik; ok. 24.00 Program na jutro.




**PIĄTEK, 21.VIII**

8.05 Nowiny; 8.15 Agencja telewizyjna „Pionieryja"; 8.45 Zaorany ugór — film; 10.25 Nowiny; 15.00 Program; 15.05 Nowiny; 15.10 „Zawsze na warcie". Telewizyjne czasopismo; 15.40 Laureaci premii Leninowskiej. G. Rożdziestwienskij; 16.20 Ekran dziecięcy. 16.30 Rolnictwu naukowe podstawy; 17.00 Hokejowe międzynarodowe zawody; 19.15 Tańczy Machmud Esambojew; 20.00 Panorama nowin; 20.10 „Bymierant" — film; 21.30 Wieczorowe melodie — koncert; 22.00 Nowiny.

**SOBOTA 22.VIII**

8.00 Program; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Nowiny; 8.45 Program dla dzieci; 9.00 Koncert; 9.30 „Zdrowie" — program popularno-naukowy; 10.00 Koncert zespołów artystycznych kolejarzy; 11.00 Ekran dziecięcy „Kasztanka"; 11.30 „Serenada". Program estradowy; 12.00 Dla dzieci: „Tajemnica wojskowa" — film; 13.25 Przegląd międzynarodowy; 13.45 Szkatułka muzyczna; 14.00 Mistrzostwa BSRR w lekkiej atletyce; 14.10 W kamieniu, metalu i farbach; 14.30 O solidarności z młodzieżą Wietnamską; 15.10 Koncert orkiestry wojskowej akademii im. Frunze; 16.00 Nowiny; 16.05 Kronika półwiecza; 16.50 Urodzaj do magazynów; 17.00 Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce; 18.25 „Troje" — film; 21.05 Program muzyczny; 22.05 Nowiny.

**NIEDZIELA, 23.VIII**

7.00 Program; 7.05 Gimnastyka; 7.15 Nowiny; 7.30 Program dla dzieci; 9.25 Śpiewa Jarmek Sierkiebojew; 10.00 Zawody piłki nożnej drużyn ulicznych; 11.00 Wielki lot — film; 11.50 Na starcie piosenka. Koncert; 12.20 „Na próżne dążenia miłości". Spektakl; 14.00 Koncert dla wojska; 14.30 Kiosk muzyczny; 15.00 Klub kinopodróżników; 16.00 Nowiny; 16.15 Koncert; 17.00 Hokej; 19.15 „Beła" — film; 21.05 Koncert solistów z Odessy.

*Сустрэча Пружанскага раёна і Гайнаўскага павета*

# УРАЧЫСТА —ЖАЛОБНЫ МІТЫНГ

Мінула ўжо больш як чвэрць стагоддзя ад заканчэння страшнай вайны ў гісторыі чалавецтва. Мінула ўжо больш як чвэрць стагоддзя ад дня перамогі над нямецкім фашызмам. За гэтыя гады зарубцаваліся раны вайны, пазарасталі салдацкія акопы. Але не пагасла, заўсёды будзе жыць памяць аб вялікім подзвігу народным. Ніколі не вычэрпваюцца крыніцы ўсенароднай падзякі тым, хто цаной уласнага жыцця адстаяў жыццё іншых пакаленняў. Ніколі не забудуцца намі людзі, якія загінулі ад рукі нямецкіх захопнікаў.

У Пружанскім раёне ў Беларусі сярод Белавежскай пушчы ёсць братняя магіла, у якой ляжаць сыны Пружаншчыны і Гайнаўшчыны, расстраляныя нямецкімі варварамі. Становіцца ўжо традыцыяй, што тут, над магілай, кожны год адбываецца ўрачыста-жалобны мітынг насельніцтва Гайнаўскага павета і Пружанскага раёна. І тут жа адбываецца спатканне сваякоў, знаёмых, прадстаўнікоў улад суседніх мясцовасцей.

Такое мерапрыемства было арганізавана 2-га жніўня. На чале з павятовымі ўладамі прыбыло сюды больш як 900 чалавек з Гайнаўскага павета, якія пасля праверкі прапускоў пагранічнікамі перайшлі дзяржаўную граніцу і спаткаліся з прадстаўнікамі Пружанскага раёна. Пружане сустракалі сяброў-суседзяў на сваёй зямлі з аркестрам, з хлебам і соллю. Хлеб і соль уручылі яны старшыні павятовай рады нарадовай Міколу Самоцюку, які ў адказ на прывітальныя словы старшыні райсавета ў Пружанах Івана Рамановіча Качура выступіў з кароткай прамовай і падзякай.

Пасля гэтага ўсе сядаюць у прыбыўшыя сюды аўтобусы і легкавыя машыны і едуць на месца ўрачыстасці пры брацкай магіле. Там чакала ўжо некалькі тысяч чалавек. Многія выглядалі і спатыкалі сваякоў і знаёмых. Сардэчныя поціскі рук, абдымкі і пацалункі можна было ўбачыць у кожным месцы. І вось пачынаецца ўрачыстасць. Пры магіле савецкія салдаты і піянеры трымаюць ганаровыя вартры. Рэпрадуктары разносяць па пушчы мелодыі песні «Свяшчэнная вайна». Жалобны мітынг Гайнаўскага павета і Пружанскага раёна прысвечаны памяці ахвяр фашызму, расстраляных 2-га жніўня 1941 года. Адкрывае яго старшыня райсавета ў Пружанах Іван Раманавіч Качур. Аркестр выконвае гімны Польшчы, СССР і БССР. Затым выступаюць з прамовамі першы сакратар Пружанскага раённага камітэта КПБ Аляксандр Савельевіч Дадонаў, сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Васіль Паскробка, старшыня савета старэйшых камуністаў Пружанскага раёна Сцяпан Піліпавіч Пацаруха, ветэран вайны з Гайнаўкі Міхал Кучка і прадстаўнік Камсамола Люба Башук. Змест усіх выступленняў меў падобны характар, а менавіта: успаміны страшных дзён нямецкай акупацыі, гераізм савецкіх салдат, супольная барацьба савецкага і польскага народаў з акупантам, вернасць ідэям марксізма-ленінізма, умацоўванне дружбы паміж польскім і савецкім народамі і т.д.



*Пружане сустракалі гайнаўчан хлебам і соллю. Бохан хлеба прымае ад іх старшыня ПРН у Гайнаўцы Мікола Самоцюк.*



*Прэзідыум урачыста-жалобнага мітынга. Выступае з прамовай I сакратар Пружанскага райкома КПБ Аляксандр Савельевіч Дадонаў.*

Хвалюючым да слёз было выступленне піянерак — васьмікласніц з Шэрашаўскай сярэдняй школы Зоі Новік, Іры Гарустовіч, Галіны Руткевіч і Ніны Карунас, якія выканалі ўрывак з «Рэквіема» Роберта Раждзественскага. Пасля мінутай цішыні ўсе прысутныя ўшаноўваюць памяць загінуўшых, а ў гэты час з рэпрадуктара раздаліся словы магнітафоннага запісу аб горы і муках савецкіх людзей, савецкіх салдат, аб баявым і працоўным гераізме дзяцей, старых і жанчын.

Урачыста-жалобны мітынг заканчваецца інтэрнацыяналам у выкананні аркестра. Затым распачынаецца ўскладванне вянкоў і кветак пад помнікам прадстаўнікамі паасобных арганізацый і ўстаноў Гайнаўскага павета і Пружанскага раёна, сваякамі і знаёмымі і многімі людзьмі, прымаўшымі ўдзел у гэтай урачыстасці. У гэты час аркестр іграе жалобныя мелодыі Шапена, а салдаты аддаюць ружэйны салют. Асабліва хвалюючым быў момант ускладвання кветак сем'ямі загінуўшых.



*Вянок пад помнікам складаюць акты вісты Гайнаўскага аддзела Беларускага таварыства Аляксей Харкевіч і Уладзімір Баўтрамюк.*



*Помнік загінуўшым. Тут немцы расс трэльвалі нявінных людзей.*



*Піянеры Шэрашаўскай сярэдняй школы выконваюць урывак з «Рэквіема» Роберта Раждзественскага.*

— Тут ляжаць нашыя мужы Даніла Курыловіч і Уладзімір Бяльдзейка, — гавораць старэнькія кабеты з Малога Красніка Пружанскага раёна.

— Расстралялі тут немцы восемнаццацігадовую Тацяну Бойка, маю дачку, — гаворыць жанчына з Белавежы.

— А мой бацька таксама тут загінуў, — кажа Вольга Кічкайла з Гайнаўкі.

Каля ста жыхароў Гайнаўшчыны і Пружаншчыны расстралялі немцы. І добра, што раз у год адкрываецца тут дзяржаўная граніца, каб сем'і і сваякі, знаёмыя і прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад дзвюх дзяржаў маглі ўшаноўваць іх памяць.

Другой часткай спаткання былі сустрэчы паміж людзьмі суседніх прыгранічных мясцовасцей, якія праходзілі вельмі сардэчна і якія, напэўна прычыняюцца да ўмацоўвання сяброўскіх сувязей, да ўмацоўвання дружбы паміж польскім і савецкім народамі.



*Такіх груп сваякоў і знаёмых у гэты дзень было многа.*

*М. Хмялеўскі*
*фота Віктар Бура*

# З ДЗЕЙНАСЦІ ЛОК

Ліга абароны краю на Беласточчыне налічвае больш 86 тыс. членаў. Адна з асноўных задач, якія паставілі перад сабой дзеячы на 1970 г., — гэта павелічэнне радоў лакаўскай арганізацыі да 100 тыс. членаў. Асаблівая ўвага будзе звернута на працу сярод жанчын.

ЛОК праводзіць разнастайную працу: развівае абаронныя спорты, займаецца вучобай, вядзе грамадскую і палітычную дзейнасць.

*Спорт у дзейнасці ЛОК.* Локаўская арганізацыя развівае агульнаваенныя спорты, спаборніцтвы па веславанню і вадалазаў, спаборніцтвы на маторную спраўнасць, мадэлярскія і іншыя. Паводле дадзеных Ваяводскага праўлення ЛОК, у 1969 годзе ў розных тыпу спартыўных спаборніцтвах на Беласточчыне прымала ўдзел 86 тыс. чалавек, з чаго 37 тыс. гэта вясковая моладзь. Толькі ў касцюшкоўскіх спаборніцтвах прымала ўдзел каля 35 тыс. чалавек, а ў стралковых каля 34 тыс. Варта падкрэсліць, што па абаронных спортах беластоцкі ЛОК займае VI месца ў краіне.

*Курсы.* Важнае месца ў працы ЛОК займаюць розныя тыпу курсы. Адной з вельмі важных галін гэтай дзейнасці з'яўляюцца курсы на правы язды. Шырока развітыя, асабліва сярод школьнай моладзі, мадэлярскія курсы і курсы вадніцкія. У 1969 годзе аж 53 тыс. членаў ЛОК праварнулася праз розныя тыпу курсы.

*Грамадская дзейнасць.* Грамадская дзейнасць членаў ЛОК на Беласточчыне вядома ва ўсёй краіне. Пабудавана грамадскім чынам каля 50 ціраў, а кошт гэтага чыну ацэнены на 70 тыс. зл. За апошнія пяць год у Беластоцкім пабудавана грамадскім чынам каля 20 аб'ектаў, вартасць якіх ацэнена на 32 мільёны зл. (ак)

# ЗБОР ЭКСПАНАТАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ ў Белавежы

23, 24 і 25 ліпеня праводзіўся далейшы збор экспанатаў у рэгіянальны Беларускі этнаграфічны музей ў Белавежы. Прынялі ў ёй удзел: кіраўнік музея мгр У. Гацута, сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ В. Бура, актывістка гэтага аддзела Н. Яньчук, практыканты музея З. Бенедыктовіч і Е. Васілеўскі, працаўнік ГП БГКТ М. Гурыновіч. Хочам падзякаваць за вялікую дапамогу нам з боку грамадскіх улад Гайнаўскага павета. Найбольшую дапамогу атрымалі мы ад старшыні грамадскай рады нарадовай у Кленіках тав. Сяргея Каліноўскага, а таксама ад выдатнага актывіста гэтай вёскі Андрэя Нікалаюка, якія ўзялі актыўны ўдзел у зборцы экспанатаў у сваёй вёсцы.

Ніжэй змяшчаем спісак асоб, якія перадалі для музея розныя прадметы.



*Кастусь Масайла ўручае У. Гацуту сукальнік.*

КЛЕНІКІ:

*Андрэй Нікалаюк* — дзве аздобныя рамкі, акоўкі да буксаў, шайбу, гваздзяльніцу, свярдзёлак да латаў, дзве формы на званякі да воза і адна да калаўротка, саламяную міску на яйкі і хлеб, лапату для хлеба, столак кляпаць касу, лопацень, кублік саламяны.

*Мікола Пашкоўскі* — кублік саламяны, рамку, капаньку, трыножнік.

*Гэлена Пашкоўская* — разбёную рамку.

*Агрыпіна Саковіч* — ліхтарню кавальскую.

РЫБАКІ КАЛЯ НАРВЫ

*Аляксандр Садоўскі* перадаў музею кадлуб, шопку, звязду калядную, хамут для валоў, чарпак для закруглівання бочак, вюрок на ніткі, ікону, чайнік, рамку аздобную, распінкі.

*Кастусь і Эміліян Масайла* — сукальнік і ступу.

АДРЫНКІ

*Кастусь Анхімюк і Параскева* — вілы, дзіцячы возік, сушнік, кавальскія гвоздзі, разакі да сячкарні, каўродак.

*Кацярына Бранкоўская* — макатку, кругельку.

*Павел Кулеша* — сошку да бульбы.

*Рышард Харкевіч* — пасталы.

*Кастусь Леўчук* — жорны.

ТЫНЯВІЧЫ ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ

*Якуб Філановіч* — скрынка на гадзіннік разбёная.

*Анна Каўнер* — каўродак.

*Марыся Леўчук* — макатку.

*Мікола Свентахоўскі* — ручную такарку да дрэва.

Усім ім шчыра дзякуем.

*У. Гацута*

*Фота В. Бура*



*Аляксандр Садоўскі перадае музею хамут для валоў.*



# ЭКСКУРСІЯ Ў БЕЛАСТОК

Часта так здараецца, што школьнікі апрача сваёй вёскі да дарослых гадоў нідзе не пабываюць. Для многіх вялікай атракцыяй з'яўляецца паездка ў горад, ды паездка цягніком. Бо і цягніком мала хто ехаў. Школа, якая арганізоўвае экскурсіі, робіць вялікую прыемнасць сваім выхаванкам. Нядаўна школьнікі з Грабаўца (Гайнаўскі павет) пад кірункам сваіх настаўнікаў пабывалі ў Беластоку і вывезлі з яго вельмі многа прыемных уражанняў.

м.х.

*Фота В. Касакоўскі*

# ВЕСЦЬ НЯСЕ З АЎГУСТОВА

Аўгустова, а па народнаму Ягуштова (народную назву ўжываюць тут усе кругом) належыць да таго тыпу вёсак, які знаходзіцца блізка ля горада і карыстаецца ўсімі яго выгадамі. Адсюль за пару мінут пехатой можна забегчы ў Бельск.

Вёска Ягуштова аднак захавала усё багацце свайго прыватнага жыцця, увесь каларыт багатай, квітнеючай, вялікай — у 800 душ насельніцтва вёскі.

Цяжка знайсці культурную працу ў час, калі моцна грэе сонца і поле кліча на працу. Вёскі ў такі час пусцеюць. А ўсялякія культурныя гурткі заміраюць. Але ж мы згодна з дэвізам, што не аднымі гурткамі жыве культурная праца, шукаем нястомна. У вёсцы Ягуштова, вялікай вёсцы, не працуе і не існаваў мастацкі гурток, які кожнаму цікаўскаму можна сунуць пад нос як доказ «бурлівага культурнага жыцця вёскі». Гуртка ў Ягуштове няма, але культурна-асветная праца тут ідзе. Наш стары знаёмы Васіль Кардзюкевіч, кіраўнік мясцовай школы, расказвае аб ягуштоўскай культурнай працы. Яна нам спадабалася.

Самае цікавае тут тое, што вось праз... 3 гады у вёсцы Ягуштова, Бельскага павета, не знойдзеце ніводнага, нават самага старога чалавека, які б не меў закончанай поўнай пачатковай школы. Старым людзям у часы іхняй маладосці ніхто не даў навукі, таму цяпер бяруць яны яе ахвотна. Пры мясцовай ягуштоўскай школе ў бягучым годзе 21 чалавек закончыў курс сёмага класа. Засталіся яшчэ такія людзі, што маюць па 4 класы. Усе яны пачнуць навуку ў новым школьным годзе, пачынаючы ад 5-га класа ўзвыш. Як інфармуе нам Васіль Кардзюкевіч, усе гэтыя іхнія «вучні» — людзі па 40—50 і 60 год: напрыклад, Аляксей Скарбіловіч, Рыгор Бусловіч — абодва былыя франтавікі, абодва здалі дзяржаўны экзамен у гэтым годзе на 5. Ольга Анацік, Ніна Асенік — адважныя жанчыны, якія ў час навукі самі паверылі ў сваю адвагу. Курс пачатковай школы у ягуштоўскай школе, які вялі настаўнікі гэтай школы, быў пастаўлены на высокім узроўні і панавала тут дасканалая дысцыпліна.

Таксама старэйшыя людзі з вёскі Ягуштова і амаль адны мужчыны трымалі перавагу ў народным універсітэце, які працаваў у вёсцы ў мінулым школьным годзе. Тэматыкай яго было: палітыка, гаспадарка і права.

Моладзь ягуштоўская затое мацней звязана са сваім клубам, у якім змяшчаецца бібліятэка (зала № I), тэлевізійная зала (№ 2) і кавярня (№ 3). Клуб ягуштоўскі раскватараваны ў новым памяшканні былой грамадскай рады нарадовай, якая пару год таму назад перабралася ў новую сядзібу ў горадзе Бельску.

(вл)

Пачатак на стар. 1

# НАШАЯ ПУШЧА

музей наведала 75 тысяч асоб. Турыстаў у Белавежы было больш, бо не кожны з іх заходзіў у музей. У гэтым годзе колькасць турыстаў яшчэ пабольшылася. У адным месяцы чэрвені музей наведала 18 тысяч асоб. Магчымасці забеспячэння патрэб турыстаў у Белавежы пашыраюцца з года ў год, хаця ўсе яшчэ яны недастатковыя. Зараз у Белавежы можа заначаваць адначасова звыш 600 чалавек, палепшылася забеспячэнне ежай. Усё яшчэ адчуваем недахоп выставачнай залы, у якой можна было б арганізоўваць добрыя выстаўкі, папулярызуючыя Белавежскую пушчу, а таксама інфарматараў, якія інфармавалі б замежных турыстаў на замежных мовах.

— *А якія адносіны пушчанскага насельніцтва да ідэі аховы пушчы?*

— Адносіны гэтыя штораз лепшыя. Спачатку мясцовае насельніцтва, прывыкшае да абыякавага гаспадарання ў пушчы, неахвотна і з незразуменнем адносілася да розных абмежаванняў і забарон. Зараз разумее яно штораз лепш вартасць пушчы, неабходнасць яе аховы і рацыянальнай, асцярожнай гаспадаркі. Жыхары пушчы ганарацца пушчай і з годнасцю гавораць аб ёй «нашая пушча».

*Размаўляў У. Паўлючук*

Пачатак на стар. 1

# ЭКСКУРСІІ-ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

*лыя домікі з чырвонаю чарапіцай і прышла да вываду, што кахаю Польшчу, маю Айчыну, за якую столькі палякаў аддало жыццё».*

А вось прыклад патрыятычных пачуццяў, абаснаваных на ведах аб гісторыі айчыны, яе мінулага і г.д. Ірэна Вярцінская з IV «а» так пісала: *«Калі я прыйшла вучыцца ў педагагічны ліцэй, я не ведала яшчэ нашай краіны. На працягу сямі год навукі ў пачатковай школе, я была толькі два разы на экскурсіях — у Любліне і Белавежы. Толькі ліцэй адкрыў мне дарогу на свет. Дзякуючы нашай школе, на працягу чатырох год навукі я пазнаёмілася і пакахала сваю айчыну».* Валя Харкевіч з II «б» так піша аб экскурсіі: *«Іншыя пачуцці выклікалі ў мяне Палі Грунвальду. Гэта была гордасць, захапленне і пашана для палякаў, герояў гэтай перамогі. Не кожны ж можа хадзіць там, дзе датыкалі зямлі ступні Ягайлы».*

Мець сфарміраваныя пачуцці народнага патрыятызму — гэта ненавідзець вайну, ненавідзець ворагаў міру. У сувязі з гэтым Яўгені Рычкоўскі, вучань V класа, піша: *«Гэта усё ўзбудзіла ва мне пачуццё невыказанага смутку, павагі і адначасова захаплення гданьчанамі, якія не вагаліся аддаць жыццё у абароне Гданьска. Грузы Вестэрплятэ умацавалі ва мне перакананне, што я, паляк, таксама гатовы бараніць сваёй айчыны перад адраджаючымся ў Заходняй Германіі фашызмам, прэтэндуючым да нашых пястоўскіх зямель».*

Гаворым аб патрыятычных пачуццях і тады, калі хтосьці выражае сваё захапленне, падзяку рабочым за іх працу пры пабудове нашай краіны. Аб гэтым пісала Ірына Нявінская з V «а» класа: *«Ганаруся, што ў маёй айчыне створаны сучасныя інвестыцыі, між іншым, Новую Гуту, агромную верф у Гданьску, якую бачыла ўласнымі вачыма. Ганаруся тым, што ў Польшчы былі і ёсць людзі, годныя таго, каб пра іх памятаць».*

А вось што піша Ніна Самусь, вучаніца V «б» класа: *«Хаця я нарадзілася ў Польшчы, я беларуска. Ад таго часу калі я пачала прымаць удзел у экскурсіях, адчуваю сябе сапраўдным грамадзянінам ПНР».*

А. Карпюк




## СУПРАЦЬ ЧАГО Я...

У апошнім ліпеньскім нумары «Нівы» апублікаваны матэрыялы аб сустрэчы, якая адбылася паміж рэдактарамі тыднёвіка і беларускімі настаўнікамі. Маю ўвагу звярнула тое, што была там гутарка аб паляпшэнні, так сказаць, атракцыйнасці ўрокаў беларускай мовы. Справа сама па сабе, вядома, не новая: урокі павінны весціся цікава.

Звярнула маю ўвагу аднак тое, што атракцыйнасць урокаў беларускай мовы ўбачана ў магчымасці пераказу элементаў гісторыі беларускай! Такая магчымасць існуе; ёсць на гэта і адпаведная пастанова міністэрства асветы і зацверджаная ім падрабязная праграма — дарэчы зазначыць, што ўсё гэта апублікавана яшчэ ў «Беларускім календары на 1969 год», нават разам з гатовымі тэкстамі, складзенымі мгр. Міколам Гайдуком.

Быццам усё ўлад... Яно так. Адно — адзінюсенькае, што непакоіць мяне — погляды некаторых настаўнікаў на справы цікавага вядзення ўрокаў беларускай мовы! У выпадку рэалізацыі выказаных поглядаў урокі роднай мовы былі б пераўтвораны ў значных сваіх размерах у гутаркі па мове ды гісторыі краю. У прынцыпе я не супраць. Я супраць таго, каб адбываліся яны коштам часу, прызначанага на навучанне роднай мовы. Супраць, таму што час той і так надта ж невялікі.

Зараз прывяду довад сваёй рацыі.

У так званых беларускіх школах, якія ўжо на самаліквідацыі, колькасць урокаў, прызначаных на навучанне боларускай мовы, роўная колькасці ўрокаў, прызначаных на навучанне польскай мовы (па 41). Тым часам у школах з прадметам беларускай мовы, якія сталіся нашай перспектывай, колькасць урокаў, прызначаных на навучанне роднай мовы, з'яўляецца утрая меншая ад колькасці ўрокаў, прызначаных на навучанне польскай мовы (прапорцыя 1:3). Бароничы інтарэсаў навучання беларускай мовы, я згодны адмовіцца ад сваёй рацыі толькі ў дачыненні да так званых беларускіх школ; там неабходна даць пэўную перавагу добраму пазнанню польскай мовы; там можна пэўную частку часу на ўроках беларускай мовы прысвяціць пераказу гістарычных ведаў. Таго патрабуе Міністэрства асветы. Але ў школах з прадметам беларускай мовы, дзе прапорцыя 1:3 — рэалізацыя праграмы элементаў беларускай гісторыі ў часе ўрокаў роднай мовы яшчэ больш абмяжуе і без таго скромныя магчымасці добрага навучання. З'ява беларусамоўнай непісьменнасці пачне нарастаць, даводзячы, між іншым, да рэдукцыі ўплываў нацыянальнай культуры. Ва ўсіх класах усяго па тры ўрокі беларускай мовы ў тыдзень — ад II да VIII-га. Для навучання элементаў беларускай гісторыі неабходна знайсці рэзервы часу. Такія рэзервы ёсць. Крыюцца яны за бар'ерам шаблоннага падыходу да школ з прадметам беларускай мовы. Менавіта, у выпадку, калі беларуская школа становіцца школай толькі з прадметам роднай мовы, аўтаматычна павялічваецца ў ёй колькасць урокаў рускай мовы (на тры ўрокі больш). Гэта шаблон арганізацыйны. Некалі заўважыў яго начальнік Маўэрсберг з Міністэрства асветы, але мясцовым асветным уладам і кіраўнікам школ не хочацца «гуляць» у беларускую спецыфіку; вымагаюць яны такога ліку ўрокаў рускай мовы, якія патрэбны школам у польскіх асяроддзях.

Замест знаходзіць рэзервы часу для навучання элементаў беларускай гісторыі, пачынаем думаць аб пераўтварэнні ўрокаў беларускай мовы накшталт урокаў па беларусазнаўству. Беларуская пісьменнасць вучняў звядзецца да менш — мінімума. Зусім шчыра кажучы, дык атракцыйнасць урокаў зале-

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ДЗВЕ ГАРАЧЫЯ ПАТРАВЫ З ЦЯЛЯЦІНЫ

1. На першую патраву нам патрэбны вялікі кавалак цяляціны з ныркай. Паколькі на гэтае блюда неабходна ўзяць даволі вялікі кавалак мяса, варта зрабіць яго, калі ў каго вялікая сям'я, альбо калі вы запрасілі на абед гасцей.

Нырку разам з тлушчам адразу трэба адрэзаць, выразаць з мяса косці. Нырку разам з тлушчам стушыць, а пасля дробна пасячы. Дадаць намочаную ў малацэ булку, два сырыя яечкі, соль, паўцыбуліны, нарэзанай і падсмажанай на тлушчы, лыжку смятаны і лыжку молатых сухароў (сцёртай на тарцы сухой булкі). Дакладна ўсё разам вымяшаць, каб атрымалася аднаітая маса.

Мяса разлажыць на дэнцы ці стале, збіць кухонным молатам, разлажыць на ім роўным пластом фарш і скруціць. Абвязаць ніткамі, або сашчапіць спецыяльнымі металічнымі іголкамі.

На дно каструлі палажыць дробна нарэзаную саланіну, на ёй палажыць мяса і тушыць гадзіны паўтары, паліваючы часта соусам, які выцякае з мяса.

На заканчэнне — мяса пасыпаць молатымі сухарамі і ўставіць мінут на 15 у гарачую духоўку, каб пакрылася залацістай скуркай. Мяса нарэзаць роўнымі кавалкамі. Падаць з маладой бульбай і салатам з свежых агуркоў.

2. На другую гарачую патраву з цяляціны патрэбна нам каля кілаграма задняй цяляціны. Мяса трэба абпаласкаць, нацерці часнаком і соллю, спырскаць лімонным сокам і пакінуць так на паўгадзіны. З мукі і вады зрабіць цеста — такое, як на варэнікі, не надта цвёрдае. Цеста раскатаць на блін такой велічыні, каб можна было ў яго загарнуць мяса.

Дакладна загорнутае мяса палажыць на змазаную тлушчам бляшку і паставіць у гарачую духоўку. Смажыць там мяса, пакуль не стане мяккае (праверыць яго мяккасць відэльцам). Калі цеста зверху зарумяньваецца занадта хутка, трэба прыкрыць яго пергаментнай паперай.

Калі мяса спячэцца, зняць з яго цеста, парэзаць мяса на кавалкі і падаваць з рысам, бульбай або гароднінай. Можна яшчэ зрабіць да яго нейкі далікатны соус, напрыклад, бешамелевы. Але аб соусах напішам вам калі-небудзь іншым разам.

*Гаспадыня*



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### МЫС ДОБРАЙ НАДЗЕІ — МЫСАМ ФАШЫЗМУ

У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы тры мільёны белых пануе над звыш дзесяццю мільёнамі негрыцянскага насельніцтва, карэннага для гэтай краіны. Пагарда да неграў узаконена ў мностве розных дзяржаўных пастаноў, ухвалаў і т.п. Апартайд — палітыка ізаляцыі белых ад чорных, афрыкандэраў ад неграў. Адзін з негрыцянскіх дзеячоў сказаў: «У краіне, у якой цвердзіцца, што ўсё прыгожае тое, што белае, мусіць выклікаць рэакцыю: прыгожае тое, што чорнае. Урад хоча, каб мы былі чорнымі, але як толькі пачынаем ганарыцца тым, што мы чорныя, урад адразу выказвае сваю занепакоенасць».



*Негрыцянскія рабочыя на фабрыцы — словам чорныя да «чорнай» работы.*

Упраўленне дзяржаўнай бяспекі, якім кіруе падобны на амерыканскага прафесара генерал Ван дэр Бэг, мае поўныя рукі работы. Агенты гэтага ўпраўлення, белыя і чорныя, апранутыя па-цывільнаму і ў мундзірах, стварылі вялізную армію даносчыкаў. Некаторыя з агентаў спецыялізуюцца ў тэхніцы хуткіх і моцных пабояў, іншыя з іх зноў вывучаюць творы заснавальнікаў камунізма, або дасканала арыентуюцца ў тэорыі Мао Цзэ Дуна, ці ў палітычнай спадчыне Гевары, і т.п. Аднак вартасць інфармацый, якія здабывае агентура ад сеткі даносчыкаў, мае той мінус, што атрыманы яны пад страхам, у атмасферы тэрору. Паўсюдная сярод неграў свядомасць, што кожны з іх можа быць без дай прычыны затрыманы і збіты да паўсмерці. Паліцыя, каб знеахвоціць неграў да ўсялякай дзейнасці, выклікае ў камісарыят кожнага, хто загаварыў з белым на вуліцы.

Сістэма даносчыкаў з'яўляецца не толькі дапаўненнем паліцэйскай сістэмы: яна з'яўляецца сродкам дэмаралізацыі і запалохвання цэлага чорнага грамадства. Пры вялікіх розніцах у заробках паміж белымі і чорнымі сістэма даносчыкаў не каштуе многа. Зрэшты, многія з іх ідуць на тайнае супрацоўніцтва з паліцыяй са страху або з прычыны асабістай злосці, нянавісці да кагосьці, каго хочацца знішчыць рукамі паліцыі. Многія стаюцца даносчыкамі, каб запэўніць сабе пачуццё бяспечнасці. Для паліцыі працуюць усе крымінальныя верхаводы, шэфы шаек.

Адзін чорны палітык сказаў заходнееўрапейскаму журналісту: «Ведаеце, што я не маю адвагі дзяліцца сваімі думкамі нават з родным братам». Кожны белы, які рашыцца стаць у абарону чорных, ведае, што пераходзіць са свету бяспечнасці і нуды ў свет безупыннага страху. Белы, які стаў у абарону чорных — перастае быць белым, паліцыя абыходзіцца з ім мо' нат' горш, чым з неграм. Адзін з іх сказаў: «Жыццё страціла ўсялякі сэнс. Калі хто табе гаворыць, што кагосьці знаёмага арыштавалі і невядома, ці жыве ён яшчэ, выпадае толькі сказаць «ну, што ж» і забыцца аб ім як найхутчэй».

Чым мацней націскае паліцыя, тым больш паслухмяны народ: спачатку гэта вынік страху, потым гэта вынік свядомасці таго, што няма магчымасці супрацьпаставіцца. Негрыцянскія партыі і арганізацыі забаронены апрача тых, якія з'яўляюцца на ўслугах паліцыі або ўраду, каб кантраляваць тыя рэшткі якога-кольвек негрыцянскага руху, актыўнасці. Негры шукаюць ратунку ад свету ў алкагалізме, у распусце, словам, у тым, што яшчэ дазволена, што не пярэчыць афрыкандэрскаму паняццю бяспекі дзяржавы.

У асяроддзі тых рэштак ужо негрыцянскіх палітыкаў дзейнічаюць прадажнікі, якіх асабліва цэніць паліцыя: сваёй актыўнасцю і адукаванасцю яны дасканала адпавядаюць патрэбам кантролю ўсяго таго, што яшчэ адбываецца ў мазгах патэнтальных кандыдатаў на правадыроў вызваленчай барацьбы. Усіх негрыцянскіх палітыкаў не арыштавалі, каб захаваць магчымасць назірання над з'яўленнем новых постацей. Сістэма здрады — сістэма фашызму непадзельна дамінуе ў зялёнай краіне ля мыса Добрай Надзеі (назва як на іронію).

(а-ся)

## НАВОШТА КУРЫЦЬ?

Усімі прызнана, што курэнне — шкодная прывычка, і перш за ўсё яно прыносіць шкоду здароўю. Тытунь утрымлівае шмат алкалоідаў — рэчываў, якія шкодна ўплываюць на арганізм. У час курэння атрымліваецца дым, насычаны нікатынам, мыш'яком сінільнай кіслатой, вокісам вугляроду. Такім чынам, курцы прыносяць шкоду не толькі сабе, але і людзям, якія знаходзяцца з імі побач. Найбольш шкодным з гэтых ядавітых рэчываў з'яўляецца нікатын. 200 грамаў тытуню ўтрымліваюць толькі кроплю нікатыну, але гэтай колькасці досыць, каб імгненна забіць чалавека, калі ўвесці яго адразу.

Больш за ўсё ад тытуню церпіць сардэчна-сасудзістая сістэма — курэнне пачашчае рытм сэрца, што выклікае яго хуткую стамляльнасць, змяншае паступленне кіслароду ў кроў, павышае крывяны ціск, уплывае на развіццё склерозу крывяносных сасудаў.

Церпяць і органы дыхання, бо нікатын выклікае хранічнае запаленне слізістай абалонкі дыхальных шляхоў, парушаючы, такім чынам, нармальную работу органаў дыхання і пагаршаючы дзейнасць сэрца.

Адмоўна ўплывае курэнне і на галаўны мозг. Кароткачасовае ўзбуджэнне, выкліканае нікатынам, звычайна змяняецца працяглым прыгнечаннем нервовых клетак, выклікаючы галаўны боль, спад увагі, працаздольнасці, стомленасць. Асабліва шкодны тытунёвы дым для маладога арганізма. Вядома, што ў вучняў, якія «балуюцца» курэннем, аслабляецца памяць, зніжаецца кемлівасць, прытупляецца ўвага, з'яўляецца неўласцівая ўзросту вяласць.

Мяркуюць, што ёсць канкрэтная залежнасць паміж утварэннем злаякасных пухлін і курэннем. І для гэтага ёсць падставы. Статыстычныя дадзеныя гавораць, што рак лёгкага, рак губы ўзнікае значна часцей у курыльшчыкаў.

Шкодзіць тытунь і страўнікава-кішачнаму тракту. Недарма ў заядлых курыльшчыкаў часта бывае ікотка, адрыжка, моташнасць, зніжаны апетыт.

Такім чынам, курачы тытунь, чалавек не толькі шкодзіць свайму здароўю, але і скарачае сваё жыццё.

І хоць гэта, здаецца, агульнавядомыя ісціны, шкодная звычка мае вялікае пашырэнне сярод людзей. І бярэ яна, на жаль, пачатак са школьных год, калі хлопчыкі пачынаюць «балавацца» курэннем.

*А. Касач*

*Карэспандэнцыя з Мінска*

## НАСТУПЛЕННЕ НА БАЛОТЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА



*На такім усюдыходзе геолагі прабіраюцца ў глыб балот.*

Пінскія балоты. Так часцей за ўсё называлі паўднёва-заходнюю частку Беларусі. І сапраўды, калі было ў гэтым краі нешта такое, што рабіла яго вядомым, дык гэта балоты. Чуваць аб іх было далёка за межамі рэспублікі. Звыш 60 працэнтаў тэрыторыі паўднёва-заходняй Беларусі займалі непраходныя тоні і забалочаныя землі.

У маі 1966 года партыя і ўрад прынялі рашэнне аб меліярацыі зямель. І цяпер паспяхова ажыццяўляецца шырокая, навукова-абгрунтаваная праграма асушкі Палесся.

Зусім зразумела, што своеасаблівым цэнтрам асваення Палесся стаў горад Пінск. Тут узнік і хутка развіваецца вялікі меліярацыйны комплекс, які аб'ядноўвае дзве навучальныя ўстановы — гідрамеліярацыйны тэхнікум і прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча, буйную будаўнічую арганізацыю і праектны інстытут.

Што ж прымусіла дзяржаву ўкладаць такія вялікія сродкі (звыш 2,6 мальярда рублёў) у меліярацыю палескіх балот? Менавіта неабходнасць выкарыстоўвання велізарных плошчаў зямель, якія раней не прыносілі ніякай карысці для народнай гаспадаркі рэспублікі.

На Палессі адносна невялікая шчыльнасць насельніцтва — у паўтара раза меншая ад сярэдняй па рэспубліцы. Удзельная вага вясковага насельніцтва ў паўтара — два разы вышэйшая. Тут на аднаго вясковага жыхара прыпадае ўсяго адзін гектар пашы і 0,8 гектара сенакосаў і пасбішч. У паасобных гаспадарках паша складае толькі 10—15 працэнтаў іх зямель, рэшта — балоты.

Такім чынам, аб'ектыўныя фактары сведчылі аб неабходнасці асушкі балот і пераўтварэння іх ва ўрадлівыя палі. І такая праца ўжо ідзе. Паводле схемы асушкі і асваення палескіх балот, запланавана асушыць і асвоіць на працягу 10—15 год 2,2 мільёна гектараў балот і забалочаных зямель. Для параўнання варта прыпомніць, што да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі на Беларусі было асушана ўсяго толькі 2 тысячы гектараў. Пасля рэвалюцыі і да пачатку другой сусветнай вайны — 85 тысяч, а на 1 студзеня 1966 года — 560 тысяч гектараў.

Цяпер у Беларускай ССР плошча асушаных зямель складае 1528 тысяч гектараў. Штогод у рэспубліцы асушваецца 190—200 тысяч гектараў балот і забалочаных зямель.

На асушаных землях Палесся плануецца стварыць 72 новыя саўгасы, пабудаваць каля 7 тысяч кіламетраў дарог, утварыць 17 буйных вадасховішчаў, 19 рыбгасаў і 410 дробных ставаў. Такім чынам, малады калектыў праектнага інстытута мае шмат работы і нямала складаных праблем.

На маю просьбу расказаць аб поспехах і цяжкасцях у працы інстытута, яго дырэктар К. Шрэйтар сказаў:

— Я б пачаў з цяжкасцей. Першая з іх заключаецца ў тым, што ў нас не хапае яшчэ кадраў, мала пабудавана жылля. Але гэтыя цяжкасці хутка будуць пераадолены. Жыллё мы будуем, і ў наступным годзе гэта не будзе ўжо праблемай. Калі ж у нас будзе дастаткова жылля, то і праблема з кадрамі хутка вырашыцца. Што ж датычыцца нашых поспехаў, дык хаця калектыў інстытута яшчэ малады, першы год мы закончылі нядрэнна. У гэтым годзе вынікі падводзіць яшчэ рана, але думаю, што закончым мы яго паспяхова.

— Варта сказаць і аб навінах у нашай працы, — працягвае дырэктар. — Калі раней мы асушалі балоты адначасова ў многіх раёнах, але невялікімі ўчасткамі, што вяло да распылення сіл і сродкаў, дык цяпер мы імкнемся асушаць землі буйнымі масівамі, асушальныя сістэмы праектуем з падвойным рэгуляваннем і розным іншым інжынерным абсталяваннем.

Шмат цяпер спраў у беларускіх меліяратараў. Шмат разведвальнікаў выйшла на балоты Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай вобласцей. Яны робяць здымкі мясцовасці, бяруць пробы грунту, робяць аналізы глебы. А ўслед за імі на балота ідуць будаўнікі і пачынаюць пераўтвараць зямлю, каб яна давала людзям карысць.

*Іван Фіцнер*

# ТРЫБУНА чытачоў

## НОВЫ ГУРТОК БГКТ

3 ліпеня г.г. арганізаваны новы гурток БГКТ у вёсцы Наройкі (Беластоцкі павет). У першым сходзе ўдзел прыняло 10 асоб. Старшынёю гуртка выбрана Галіна Пацкевіч, сакратаром Павел Лакель і скарбнікам Яўгенія Пацкевіч.

На сходзе моладзь абмеркавала многа арганізацыйных спраў. *Ц.Я.*

## АРГАНІЗАЦЫІ НАРВЫ

У асадзе Нараў (Гайнаўскі павет) добра працуе гурток вясковых гаспадынь (КГВ), які ўзначальвае Зося Шахевіч. Жанчыны апякуюцца агародчыкам для дзіцячых гульняў, арганізуюць супольную пакупку куранят, прымаюць удзел у шматлікіх конкурсах. У апошні час, напрыклад, прынялі ўдзел у конкурсе на найлепшы агародчык з агароднінай. У мінулым годзе мелі курс гафтавання. Нараўскія жанчыны арганізавалі таксама экскурсію ў Варшаву.

Старшыня ГРН у Нарве Янка Кураш выступіў на адным з партсходаў з прапановаю, каб утварыць пры ГРН грамадскую раду жанчын.

* ✲ *

Шмат дапамогі ЛьЗС-у ў Нарве ўдзяляе мясцовы гурток ЗМВ (гурток Саюза сялянскай моладзі). У апошні час два гэтыя маладзёжныя гурткі задумалі пабудаваць спартыўную пляцоўку пры нараўскім ПОМ-е.

Варта адзначыць, што гурток ЗМВ у Нарве займаецца не толькі спортам, але штогод прымае актыўны ўдзел у пасадцы дрэў.

*Янка Цялушэцкі*

## ВЕСТКІ З ЛЯЎКОВА

Нядаўна ў Старым Ляўкове адбыўся экзамен на права вадзіць матацыкл. Заняткі на курсе праводзіліся ў школе ў Старым Ляўкове. Вялі іх выкладчыкі на правілах вулічнага руху грам. Чэрняк і Штукевіч. На курс хадзіла 28 чалавек з Ляўкова, Лукі, Ахрымоў, Бернацкага мосту, Тарнопаля і Капітаншчыны. Экзамен паспяхова здало 24 асобы і ўсе яны задумалі купіць сабе матацыклы.

9 жніўня г.г. адбылося ў прышкольнай святліцы ў Старым Ляўкове выступленне семяноўскага драмгуртка. У праграме мастацкай часткі былі вершы, песні, скетчы, гумар, а таксама пастаноўка п'есы Я. Купалы «Прымакі». Пасля мастацкай часткі адбылася маладзёжная патанцоўка.

На выступленне семяноўскіх артыстаў і на забаву сабралося многа моладзі. Прыйшлі сюды святочным падвячоркам юнакі і дзяўчаты нават з адлеглых навакольных вёсак як Сушчы Барок, Капітаншчына, Ляшукі, Міхнаўка, Плянта, Бернацкі Мост, Лазовае і г.д. Мастацкая частка адбывалася пры запоўненай да апошніх месц зале.

*Янка Цялушэцкі*

## З ПРАЦЫ НАРАЎКАЎСКАГА КАМІТЭТА ПАРП

У апошні час ва ўсіх ПОП адбыліся сходы, на якіх члены партыі пазнаёміліся з пісьмом экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку ў справе далейшага развіцця і паляпшэння дзейнасці партыйных арганізацый. Такі сход адбыўся, між іншым, у Нараўцы (Гайнаўскі павет). На сходзе члены і кандыдаты ПАРП вырашылі многа такіх арганізацыйных спраў, як сістэматычнае аплачванне членскіх складчын, падрыхтоўка актуальнай эвідэнцыі членаў ПАРП, скліканне партыйных сходаў і разбудова ПОП.

Члены грамадскага камітэта пастанавілі арганізаваць ПОП у Гушчэвіне і Заблоччыне, а таксама актывізаваць працу ПОП у Міклашэве, Альхоўцы і Скупаве.

Варта адзначыць, што на сходзе нараўкаўскага грамадскага камітэта ПАРП вырашаюцца заўсёды важныя і хвалюючыя справы грамады і асады.

У апошні час сходы былі прысвечаны працы маладзёжных арганізацый працы міліцыі, справе мінеральных угнаенняў, забеспячэнню хімічнымі сродкамі да барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі, супрацьпажарнаму забеспячэнню ў летні перыяд, а таксама ўручэнню сцяга мясцоваму гуртку ЗБОВіД. *Я.Ц.*

## СЕЛЯДЦЫ НА СПЯКОТУ

У многіх вясковых крамах, у тым ліку і ў Белках, няма мукі. Але вось селядцоў дастаткова. А падчас жніва і іншых палявых работ, каб паеў селядцоў, дык трэба было б абапіцца вадою так, што і хадзіць не змог бы. Гайнаўскія дастаўшчыкі тавараў у спякоту самі, напэўна, не ядзяць селядцоў, а сялянам прывозяць. Нядобра, сябры, нядобра.

*М. Л. Белкі*

## У ПАЎНОЧНЫМ ВОСТРАВЕ

Два гады ўжо існуе ў Паўночным Востраве (Сакольскі павет) сельскагаспадарчы гурток. За гэты кароткі час дабіўся ён добрых вынікаў. У мінулым годзе меў ён 70 тысяч даходу за калектыўна засеяныя і сабраныя пасевы ячменю і грэчкі. У бягучым 1970 годзе гурток засеяў 160 га жыта і аўса. Гэтыя культуры вельмі ўрадзілі. Гурток мае тры камбайны, сем трактараў і да іх усе сельскагаспадарчыя машыны. Гурток дапамагае індывідуальным гаспадарам, выпазычаючы два меншыя трактары да працы на полі. Уладзімір Казёл і дыспазітар Вацлаў Юрчэня намагаюцца так кіраваць працаю, каб усе трактары былі поўнасцю выкарыстаны, каб зусім не мелі яны прастою.

*А. С.*
*Сакольскі павет*

## НА ПЛЯЖЫ

Жнівеньская пагода сцягвае на Нарву многа людзей. Асабліва жыхароў Бельска Падляшскага. Толькі ВСС «Сполэм» і ГС у Бельску не памятаюць аб тым, што пляжы павінны быць забяспечаны ахаладжаючымі напіткамі.



*На пляжы над Нарвай ў Войшках.*

## БЕЛЬСК ПРЫГАЖЭЕ

Горад Бельск з кожным годам прыгажэйшы. Гаспадары мястэчка дбаюць аб выглядзе вуліц і сквераў. Апошнім часам паявіліся прыгожыя гандлёвыя рэкламы на вуліцы Міцкевіча.




## ЗМАГАННЕ СА СТОНКАЙ

Стонка (каларадскі жук) атакуе пасевы бульбы. Сяляне ўсімі даступнымі ім спосабамі вядуць з ёю барацьбу. Іван Ігнатовіч з Відава, што каля Бельска, купіў ручны апыляч, які добра здае экзамен у ліквідацыі стонкі.



## ВЯСКОВЫЯ ДЗЯЦІНЦЫ

Павятовае праўленне ТПД (Таварыства прыяцеляў дзяцей) на Бельшчыне арганізавала 15 вясковых дзяцінцаў. Бацькі могуць спакойна працаваць на полі і зусім не хвалявацца аб дзецях, бо яны забяспечаны і харчамі і апекай.

*Тэкст і фота П. Зінкевіч*



*У дзяцінцы ў Галадах.*




*Дарагое Сэрцайка!*

Выехаў я з дому 2 гады таму назад. Знайшоў працу і там працаваў цэлы гэты час. Пазнаёміўся з Аляй, якая мне вельмі спадабалася. Нашае сяброўства працягвалася год часу. Нядаўна я вярнуўся на гаспадарку да бацькоў. Не прайшло і дзвюх нядзель, як за мною прыехала Аля. Яна зацяжарыла. Бацькі мае прынялі Алю вельмі ветліва і пачалі на мяне налягаць, каб я хутчэй жаніўся з Аляй. Тут у нашай вёсцы пакахала мяне іншая дзяўчына, Соня. Соня намаўляе мяне, каб я жаніўся з ёю. Яна ведае, што ў мяне ў хаце сядзіць Аля, і наогул ведае ўсю нашу справу, але на нічога не зважае, бо мяне кахае. Мне таксама Соня лепш падабаецца ад Алі, але бацькі і Аля перашкаджаюць нам. Што рабіць, мо мне з Соняй выехаць з вёскі, знайці дзе-небудзь працу і жыць? А мо ты мне які іншы выхад падкажаш? Чакаю. За параду дзякую.

*Сцёпа*
*з Дуброўшчыны*

*Сцёпа!* Ніякага іншага выхаду табе тут не трэба шукаць, бо ў цябе ён толькі адзін — хутчэй жаніцца з Аляй. Ты ж ужо бацька! Ведаю, што ты цяпер гэтых пачуццяў, г.зн. бацькоўскіх пачуццяў, не знаеш. Але з момантам нараджэння твайго дзіцяці, ты іх адчуеш. Усё зменіцца і ўсё будзе тады як найлепш. Бліжэйшай табе стане і Аля, яна ж маці твайго дзіцяці. Тады ж яна табе падабалася, дык чаму ж цяпер не? Цяпер тым больш павінна стаць табе даражэйшай. Аднак часта, вельмі часта так бывае, што, вось тады, калі трэба даражыць той асобай, якой гаварыў «кахаю», «будзеш маёй жонкай» і т.п. і якая паверыла, потым, калі спадзяецца дзіцяці, хлопец уцякае ад яе, так як зрабіў гэта ты. Дык куды ж ты думаеш уцякаць? Права ўсюды цябе і так знойдзе, ты ж будзеш вымушаны плаціць на сваё дзіцё. І не верыцца мне, што ты ў такім выпадку будзеш шчаслівы з Соняй. Не, напэўна не! Які ж ты чалавек, дык і паступай па-чалавечы, не крыўдзь ты Алі і свайго дзіцяці. Таму раю табе паслухаць бацькоў (каб жа ж усе былі такія разумныя бацькі, як твае) і ажаніся з Аляй.

*Жадаю вам усяго найлепшага*
*Сэрцайка*

## ШУДЗЯЛОЎСКІ СОП

Шудзялоўскі СОП даволі малады. Арганізаваўся ён год сем таму назад. Раней быў ён філіяй крынкаўскага СОП-у. Раён шудзялоўскага СОП-у бадай што найбяднейшы ў Сакольскім павеце. Тут большасць вёсак мае цераспалосіцу, мала сяляне кантрактуюць сельскагаспадарчых культур, а калі кантрактуюць, дык грэчку, лубін, жыта і крыху бульбы. Жывёлагадоўля слаба развіваецца, бо адчуваецца недахоп корму. Але СОП у Шудзялове з'яўляецца перадавым на Сакольшчыне. Па чарзе 4-ы гады выконваюцца тут планы ашчадных укладаў. А з гэтым даволі дрэнна ў такіх СОП-ах, як у Янове ці Карыціне. Штогод шудзялоўскі СОП мае бюджэтную надвышку. Тут вельмі сардэчна ўладжваюцца справы гаспадароў. Калі каго-небудзь сустрэне няшчасце, здохне конь, ці іншая бяда здарыцца, дык тады ідзеш да СОП-у, і яго кіраўнік Вітальд Будроўскі адразу, з месца залатвіць справу. Склікае ён камісію, якая прызнае пазыку, і чалавек адразу атрымоўвае грошы.

Нядаўна СОП у Шудзялове атрымаў новы выгадны адміністрацыйны будынак з сучасным абсталяваннем. 22-га ліпеня будынак гэты быў аддадзены да агульнага карыстання. *С. А. Саколка*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

### КЛЯШЧЭЛІ

„Galia" (franc.), 25—26. „Smarkula" (polski), 27—28. „Nie ma powrotu Johny" (polski), 29—30.

### ДУБІНЫ

„Grawitacja" (jugosł.), 29—30.

### НАРАЎКА

„Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 26—30.

### НАРВА

„Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), „Kalejdoskop" (angl.), 26—30.

### ЧЫЖЫ

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Październik — 10 dni, które wstrząsnęły światem" (radz.), 26—30.

### ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

„Adolf' (franc.), „Wniebowstąpienie" (polski), 26—30.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

### БОЦЬКІ

„Lalka" (polski), „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 26—30.

### ОРЛЯ

„Nowy" (polski), „Szczęśliwy Aleksander" (franc.), 26—30.

### РАЙСК

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" (włoski), 26—30.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

### МІХАЛОВА

„Największe widowisko świata" (USA), 25—36. „Dziewczyna z walizką" (włoski), 27—28. „Dzień oczyszczenia" (polski), 29—30.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

### КРЫНКІ

„Na pomoc" (angl.), 25—26. „Dzwony dla bosych" (czeski), 27—28. „Gra" (polski), 29—30.

### ЯНАЎ

„Szkice warszawskie" (polski), 26—30.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

### НУРЭЦ

„Wierność" (radz.), 25—26. „Dziewczyna z walizką" (włoski), 27—28. „Dzień oczyszczenia" (polski), 29—30.

### МЕЛЬНІК

„Zwali go Al Capone" (jugosł.), 25—26. „Sami na wyspie" (jugosł.), 27—28. „Most" (jugosł.), 29—30.

### МІЛЕЙЧЫЦЫ

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 25—26. „Kryptonim Nektar" (polski), 27—28. „Most" (jugosł.), 29—30.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

### СУХАВОЛЯ

„Polowanie na muchy" (polski), „Cierpienie młodego Bohaczka" (czeski), 26—30.

### НОВЫ ДВОР

„Milion lat przed naszą erą" (USA), „Stawka większa niż życie" (polski), 26—30.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

# • КАСМАНАЎТКА •

Я не магу спакойна чытаць аб заваёвах навукі. Дрыжыкі мяне праймаюць, калі я падумаю аб магчымасцях, якія вырысоўваюцца перад намі. Мужчыны, зайздросныя для сваіх сакрэтаў, цвердзяць, што нашаму, жаночаму розуму не пад сілу такія галіны, як кібернетыка, касманаўтыка і іншыя праблемы сучаснасці.

Смешна! А хто ж, як не жанчыны, з веку ў век развівае навуку, якая завецца касманаўтыкай, задачай якой з'яўляецца менавіта абмежаванне ўздзеяння часу? Ідучы па шляху, пралажаным касманаўтыкай, мужчыны адкрылі, што касманаўт у сваім міжпланетным падарожжы не будзе старэць. Я доўга не магла апамятацца ад уражання, якое зрабіла на мяне гэта вестка, і ўрэшце я вырашыла запісацца добраахвотнікам ў гэты касметычны космас. Я дасканала ўяўляю, як усё гэта адбудзецца...

Душараздзіраючыя сцэны развітання, кветкі, а дакладней не кветкі, а водарасці, якія маюць уласцівасць размнажацца ў космасе і, такім чынам, будуць пастаўляць мне ў ракеце страву як духоўную, так і матэрыяльную.

Натоўп на касмадроме, аператары кінахронікі і тэлевізіі, карэспандэнты і Мецё Балончык з Тарахоміна. Усе мяне вітаюць. Я ў зграбным камбінезоне, махаю ім рукою, абыякавая да ўсяго зямнога. Я ўваходжу ў касмічны карабель, прыцягваю да сябе пілота, аўтаматычнага, зразумела, і — ф'ю — да сонца, да зорак!.. А там, далёка на зямлі Мецё Балончык гне спіну, каб працай заглушыць тугу па мне, і нават не прыкмячае, як становіцца чалавекам багатым. Грошы ён адкладвае на ашчадную кніжку з думкай аб маім вяртанні. Цяпер ён зразумеў, што ён страціў, а раней ніяк не мог рашыцца на шлюб, так яму і трэба! Гады бягуць, і, калі мінае паўстагоддзя, я вяртаюся на Зямлю.

Мабыць, вы думаеце, што на аэрадроме з ракеты вылезла сівая старавінка, паломаная касмічным раматусам? Нічога падобнага! Ледзь ракета прызямлілася, як з яе выскачыла вясёлая дваццацігадовая, не кранутая часам касманаўтка. Ну вядома, гэта была я. А на аэрадроме сыны і ўнукі тых журналістаў, якія праводзілі мяне пяцьдзесят год таму назад. У глыбіні ля бар'ера стаіць калясачка, а ў калясачцы сямідзесяцігадовы дзядуля з ашчаднай кніжкай у руцэ... Гэта Мецё Балончык, якога прывезлі сюды сябры.

Я прыпадаю да яго рукі, ён чмокае бацькоўскі пацалунак на маім чале і адразу ўсынаўляе мяне, як унучку. Потым я выходжу замуж за прыгожага журналіста. Зямны час здаецца мне незямным, але праз нейкі перыяд я ясна бачу ў люстры, што мне пара адправіцца ў космас, на гэты раз у зону амаладжэння. Я зноў адлятаю і зноў вяртаюся ўжо пяцігадовай дзяўчынкай. Ах, якое цудоўнае дзяцінства, калі ты ў вобразе чароўнага дзіцяці!

Прыемна марыць, калі маеш такі навуковы розум, як у мяне. Я расказала нейк Мецю аб гэтых марах, а ён у адказ:

— Толькі будзь асцярожна ў гэтых касмічных падарожжах. Калі які-небудзь мужчына захоча табе адпомсціць, ён адправіць цябе ў космас дзіцём, а вернешся ты ў вобразе аднаклетачнага...

Я толькі пацізнула плячыма. Я пранікаю розумам да вяршынь ведаў, а ў Меця ў галаве толькі намёкі на асабістасці. Грубіян!

*Анна Ляхіцкая*

# НІЎКА

Старт у гарачы поўдзень.

## МУРАШКІ

У самалёце сядзяць побач двое пасажыраў: адзін, які ўжо пралётаў тысячы кіламетраў, і другі, што ўпершыню апынуўся на борце паветранага карабля. Спалоханы навічок выглядае праз акенца і хапае за руку свайго суседа:

— Зірніце на тых людзей, там унізе. Выглядаюць, як мурашкі!

— Бо гэта і ёсць мурашкі, — адказвае сусед. — Мы яшчэ не адарваліся ад зямлі.

## МІЛЬЯНЕР У ПАВЕТРЫ

Амерыканскі мільянер выбраўся ўласным самалётам у падарожжа навокал свету. Што нейкі час пілот інфармуе свайго дабрадзея аб краінах, над якімі пралятаюць.

— Ляцім над Бельгіяй, — гаворыць.

— Дасканала, ляцім далей, — адказвае мільянер.

— Ляцім над Францыяй, — інфармуе пілот праз гадзіну.

А на гэта мільянер:

— Не звяртай увагі на падрабязнасці. Называй толькі часткі свету...

## НІЧОГА ДЗІЎНАГА

Два арлы сядзяць на скале. Раптам над імі зусім нізка пралятае рэактыўны самалёт.

— Гэта вельмі птушка шпаркая, — заўважае адзін арол.

— А што тут дзіўнага, — кажа другі, — І ты быў бы такім шпаркім, калі б табе падпалілі крылы.

## НА МЕСЯЦЫ

Чалавек прызямліўся на Месяцы. Бачыць: пад цяністым дрэвам размаўляе пара маладых аўтахтонаў. Жанчына вельмі прыгожая, а і мужчыне нічога не бракуе. Касманаўт пытаецца:

— Ці вы муж і жонка?

— Так.

— А ёсць у вас дзеці?

— Не. Тут не можна іх мець.

— Як гэта?

— Вельмі проста. Гляньце на гэтую скалістую зямлю.

— Дык што з гэтага?

— А якім спосабам можа тут вырасці капуста?

## ЯМУ ЗДАВАЛАСЯ

Падняўшыся ўпершыню ў жыцці на самалёце, немалады грамадзянін пытае ў сцюардэсы:

— А парашуты вы даеце?

— У нас гэта не прынята, — адказвае яна.

— Аднак на борце марскіх караблей пасажырам даюць ратавальныя поясы.

— Дык мы ж не ў моры.

Пасажыр уздыхнуў:

— Дагэтуль мне здавалася, што людзей, якія ўмеюць лётаць, значна менш, чым тых, якія могуць плаваць.

## НА ВЕРТАЛЁЦЕ

Пажылая жанчына ўпершыню ляціць на верталёце. Пасля ўзлёту яна гаворыць пілоту:

— Сынок, тут так дуе, выключы, калі ласка, гэты вентылятар наверсе.

## У ПАРАШУТЫСТАЎ

Выкладчык звяртаецца да слухачоў парашутнага курса:

— Не дурыце сабе галавы выпадкамі. Сярэдняя іх адзін на тысячу, а вас тут ледзь дзвесце...

— Тата, мяне прынялі ў аэраклуб!

## ПАЛЁТ

— Ці вы ўжо падарожнічалі калі-небудзь самалётам?

— Так.

— І зусім не баяліся?

— Толькі першы раз баяўся.

— А потым?

— Потым ужо я не лётаў.

Эфект прысутнасці.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Алі, Марысі і Міркі; Тамары, Валі, Яўгені і Дароты са Страблі, Бельскага павета, змяшчаем песню:

## Cóż wiemy o miłości

**Słowa: Andrzej Lech**
**Muzyka: Bogusław Klimczuk**

Cóż wiemy o miłości
mając szesnaście lat?
Nic, albo prawie nic.
Nie wiedzieć nic najprościej,
serce, najbielsza z kart,
a w oczach tylko ty...

Póki wierzymy w prawdę ust,
póki kochamy, pytam znów:

Cóż wiemy o miłości,
gdy już umyka z rąk?
Jeszcze wierzymy w nią...

Czas rwie na strzępy ludzki los,
ktoś za kimś poszedł w świat.
Komuś się zdaje, już nie pierwszy raz,
że nie zwiędnie kwiat...

Cóż wiemy o miłości?
Mało i coraz mniej,
im dłużej życie trwa,
Bo przecież o miłości
jednak najwięcej wiesz
mając szesnaście lat!

## ЗАМЕСТ ІАНАША

У калекцыях Інстытута акеанаграфіі Уладзівастоку знаходзіцца многа прадметаў, якія былі знойдзены ў жалудках кітоў. У 1968 годзе з унутранасцяў вялікага кашалота выдабылі... прапелер самалёта.

## НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ

Пасажырскі самалёт даў у часе палёту моцны крэн і затым пераварнуўся ў паветры. У салоне пачалася паніка, але тут увайшла вясёлая сцюардэса і сказала:

— Не хвалюйцеся, усё ў парадку. У пілота насмарк, і якраз у гэты момант ён закрапляе сабе ў нос кроплі.

## ЖОНКА ПІЛОТА

У час паветранага параду адзін з гледачоў звярнуўся да жонкі пілота, які выконваў складаную фігуру пілатажу:

— Вы, напэўна, хвалюецеся за мужа?

— А як жа! У яго ёсць дурная прывычка: браць з сабою грошы. А раптам згубіць.

# Курёзы

*Няўдачлівы пілот*

На адным амерыканскім аэрадроме сторож, які вартаваў самалёты, усеўся ў кабіне верталёта. З нуды пачаў націскаць па чарзе на розныя гузікі. У выніку верталёт выстартаваў, падымаючы ў паветра спалоханага пасажыра. Сторож, каб направіць сваю памылку, далей націскаў на гузікі. У эфекце матор перастаў працаваць. Верталёт панёсся каменем уніз і разбіўся ўшчэнт. Няўдачлівы пілот цудам выратаваўся.

*Цэглай па самалёце*

У пачатку першай сусветнай вайны французскія лётчыкі забіралі з сабою ў баявыя палёты мяшкі з цэглай. У выпадку сутычкі з непрыяцелем, кідалі яны цэглай у варожыя машыны, намагаючыся любою цаною пашкодзіць прапелер.

Гэтым спосабам французскія лётчыкі збілі ў часе ваенных дзеянняў два нямецкія самалёты.

* * *

Лонданскія гарадскія станцыі ачысткі вады трымаюць на службе Дэльтана Сторджэса. Ён прабуе ваду на смак шэсцьдзесят разоў на дзень.

# Міжы намі

*Што з таго, што ў мышы выраслі крылы? Усёроўна яе называюць лятучай, а не крылатай.*